**ТОЛЬКІ У НАС! TV**

СПАДАРОЖНІКА-ВАЕ! ● БТ, РТР, Астанкіна, НТБ С.-Пецярбург, Польшча-1, Польшча-2.

## ЛЮДЗІ І ЗЬВЯРЫ



Гарадзенскаму заапарку ў наступным годзе спаўняецца 70 год, а пакуль жыхары зьвярынца і людзі, якія даглядаюць за жывёламі, павінны перажыць зіму...

ст. 3

## ЖУЛІКІ



Махляры "нагрэлі" на буйную суму Берасьцейскі завод газавых плітаў...

Людзі зараз гандлююць усім, у тым ліку і макавай саломкай...

На ўчастку Смаргонскага памежатраду затрымана ажно чатыры партыі кантрабанднага грузу...

ст. 8

**НАДВОР'Е**

2-3 лістапада воблачна з праясьненьнямі, часамі дождж. Вецер заходні з парывамі. Тэмпература паветра ўначы 0 +5, удзень +3 +8.



# ПАГОНЯ

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

№ 44 (191) • 1 - 7 лістапада 1996 г. • Кошт свабодны



## ЖЫВЕ БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА!



Раніцай у мінулую суботу на спартыўнай пляцоўцы школы N 26 Горадні сабралося шмат па-сьвяточнаму апранутых дзяцей і дарослых. У руках людзі трымалі кветкі. У паветры луналі шматлікія каляровыя шарыкі. Школа адзначала сваё дзесяцігоддзе.

Больш падрабязна пра гэтую падзею на ст.3.

## РАЗАМ МЫ ПЕРАМОЖАМ!

**30 кастрычніка рэдакцыю «ПАГОНІ» наведаў жыхар вёскі Каробчыцы Гарадзенскага раёну Пётр Леанавіч Скрамблевіч. Ён ахвяраваў «ПАГОНІ» 50 тысячаў рублёў і пакінуў пісьмовае тлумачэньне свайго ўчынку:**

*«Нядаўна я атрымаў «прэзідэнцкую» дапамогу - 500 тысячаў рублёў. Спачатку я хацеў адмовіцца ад гэтых грошай, але потым перадумаў. Грошы ж гэта людзкія. Ім іх трэба і вярнуць. Хоць у мяне двое дзяцей, але «прэзідэнцкая» падачка мне не патрэбная. Дзесяць працэнтаў гэтых грошай аддаю газеце «ПАГОНЯ».*

*Сёньня самы дарагі тавар - гэта інфармацыя. Праўдзівая інфармацыя. А яе мне дае «ПАГОНЯ», амаль бясплатна. Я падумаў, што ёй цяжка і трэба дапамагчы».*

**АД РЭДАКЦЫІ:** «ПАГОНІ» цяпер сапраўды цяжка. Пасьля амаль двухмесячнай праверкі, абласная падатковая інспекцыя прад'явіла нам фінансавыя санкцыяў на агульную суму 53 мільёны рублёў. На нашыя пярэчаньні, што гэтыя санкцыі незаконныя, падатковікі заявілі, што мы можам зьвяртацца ў суд. Мяркую, толькі там усё разглядаецца згодна з законам. А яны - абараняюць дзяржаўныя інтарэсы...

Як бы ні павярнулася справа, мы лічым, што наш сьвяты абавязак - ня даць «бацьку» і ягоным памагатым атрымаць падвойнае задавальненьне: урваць ад «ПАГОНІ» хоць нейкую капейчыну на рэферэндум і, адначасова, задушыць яе фінансава... Але, як Вы разумееце, сілы няроўныя. У наступны аўторак падатковая інспекцыя можа выставіць названую вышэй суму для аплаты ў так званым безакцэптным парадку. Фактычна, наш рахунак будзе заблакаваны.

Тыя, хто ўсё гэта задумаў, разумеюць, што раней ці пазьней незаконна забраныя грошы прыдзецца вяртаць. Аднак, разьлік - на іншае. Пакуль будзе ісьці разьбіральніцтва, «ПАГОНЯ» будзе маўчаць. Не бываць гэтаму!!!

Будзе выходзіць «ПАГОНЯ», ці не - залежыць не ад чыноўнікаў. Гэта залежыць толькі ад Вас, паважаныя чытачы. Пакуль «ПАГОНЯ» Вам патрэбная, яна будзе выходзіць!

Найлепшая падтрымка для нас - падпіска на газету. Той, хто мае жаданьне і магчымасьць, можа пералічыць сродкі на наш **разьліковы рахунак 3015272100087** у «Комплексбанку» г.Горадні, **МФО 714**, культурна-асьветніцкаму фонду «Бацькаўшчына», з паметкай **«Ахвяраваньне на карысьць «ПАГОНІ»**.

Разам мы пераможам!

Мікола **МАРКЕВІЧ.**

## КАЛІ ЛАСКА!

**З 1 па 4 лістапада на мяжы Польшчы і Беларусі будзе ўстаноўлены часовы парадак яе перасячэньня для грамадзян дзьвюх дзяржаў, якія жадаюць наведаць магілы сваіх родных.** Беларуска-польскую мяжу ў гэтыя дні грамадзяне змогуць перасякаць па пашпартах ды выдадзеных Чырвоным Крыжам гэтых дзяржаў пасьведчаньнях, якія пацьвярджаюць наяўнасьць магіл родных адпаведна ў Беларусі і ў Польшчы.

Людвік **ВАЛЫНЕЦ.**

## ПАКЛОНІМСЯ ДЗЯДАМ

**Сябры Беларускага Народнага Фронту ў Горадні заўтра з 10 гадзінаў раніцы будуць ускладаць кветкі да памятных месцаў, зьвязаных з гісторыяй горада і краіны. А 15-й гадзіне ў Фарным касьцёле з нагоды Дня памяці пройдзе беларускамоўная імша.**

Адзначаць Дзяды зьбіраюцца і гарадзенскія чыноўнікі. Яны ўскладуць кветкі да мемарыяльных дошак і месцаў масавых захаваньняў. Напярэдадні сьвята ў школах, некаторых арганізацыях і прадпрыемствах пройдуць вечарыны памяці.

Віктар **ЛЮДВІКОВІЧ.**

## СВОЙ «ЗЬМЕЙ» ПРЫЕМНЕЙ І МІЛЕЙ

**У Горадні працягваецца вайна мясцовых уладаў супраць алкагольных напояў, выраблены па-за межамі вобласьці. Пасьля пасьпяховага выгнаньня з паліц мясцовых крамаў берасьцейскай, віцебскай ды менскай гарэлкі, чарга дайшла да імпартных «Абсалюта», «Сьмірнова» і г.д.**

У кастрычніку рашэньнем гарадзенскай «вертыкалі» да 1 студзеня 1997 году было прыпынена дзеяньне ліцэнзій на гандаль імпартным алкаголем шэрагу вядомых фірмаў («Мока», «Младзі» і г.д.) Падставай для гэтага стала парушэньне фірмамі «звышсакрэтнага» распараджэньня гарвыканкаму N 297 ад 17 ліпеня гэтага году. Усе спробы карэспандэнта «ПАГОНІ» азнаёміцца з гэтым дакументам наткнуліся на катэгарычнае "только для служебного пользования". Дык што ж так старанна хаваюць ад людзей гарадзенскія чыноўнікі?

У сярэдзіне году гарадзенскаму лікёрагарэлачнаму заводу была перададзеная вялікая партыя канфіскаванага сьпірту. Але што з ім рабіць, калі склады прадпрыемства і так былі завалены нерэалізаванай прадукцыяй? Высьйце было знойдзена сапраўды «сацыялістычна-рынчачнае». Са згоды прэзідэнта абласная, а за ёй і гарадзкая «вертыкаль» прымаюць рашэньне забараніць на тэрыторыі вобласьці і гораду продаж негарадзенскіх моцных напояў. Мяркую, і склады свайго завода разгрузім і прыбыткам з прададзенай «сваёй» гарэлкі дзірку ў бюджэце залатаем. Дзіркі, напэўна, аказаліся вялікімі, бо сьледам за ліквідацыяй беларускіх канкурэнтаў узяліся за фірмы, якія гандлююць іншаземнай гарэлкай. Як бычцам бы «Абсалют», які каштуе больш 400 тысячаў рублёў, таксама ствараe канкурэнцыю 26-тысячнай «Гародні»! А што, мяркую, рабіць, калі ледзь не адзінай прадукцыяй у вобласьці, на якой бюджэт можа зарабляць грошы, зьяўляецца гарэлка, ды і то пры ўмове адсутнасьці ўсялякай канкурэнцыі?

Толькі вось як усё гэта стасуецца з антыманапольным заканадаўствам?

Віктар **ЛЮДВІКОВІЧ.**

## ЦІ БУДЗЕ Ў БАНКА «МАГЧЫМАСЬЦЬ»?

**У Горадні распачалася перарэгістрацыя моладзі (грамадзяне да 30 гадоў уключна), якая стаіць у чарзе на паляпшэньне жыльлёвых умоваў. Робіцца гэта ў адпаведнасьці з Указам прэзідэнта N 358 ад 10 верасьня «Аб мерах па паляпшэньню жыльлёвых умоваў моладзі». У выніку перарэгістрацыі будзе складзены сьпіс асобаў, якія маюць права на атрыманьне ільготных крэдытаў на будаўніцтва ці куплю жыльля.**

З гэтай нагоды карэспандэнт «ПАГОНІ» сустрэўся з загадчыкам аддзелу па ўліку жыльлёвага фонду і наліченьня жыльлёвых субсідый адміністрацыі Ленінскага раёну Горадні Фёдарам Дзядковым:

***- Колькі маладых у раёне мае патрэбу ў паляпшэньні жыльлёвых умоваў?***

- На ўліку ў нас у чарзе на дзяржаўныя і кааператыўныя кватэры стаіць каля 5 тысячаў чалавек. Колькі ж усяго маладых людзей маюць патрэбу ў жыльлі - сказаць цяжка.

***- Вашая служба праводзіць толькі перарэгістрацыю тых, хто ўжо стаіць у чарзе ці адначасова і рэгістрацыю тых, хто спадзяецца атрымаць ільготныя крэдыты?***

- Механізм зацьвярджэньня сьпісаў ва Указе не акрэсьлены. Таму нашая задача - у трохмесячны тэрмін правесьці перарэгістрацыю. Адначасова мы будзем рэгістраваць маладыя сем'і, якія хацелі б атрымаць крэдыт.

***- Хто падпадае пад катэгорыю маладых сем'яў?***

- Тыя сем'і, дзе мужу і жонцы ці аднаму з іх 30 і меньш гадоў.

***- Гэта азначае, што ў першую чаргу на дзяржаўную дапамогу будуць прэтэндаваць тыя, хто ўжо быў зарэгістраваны?***

- Так.

***- На якія ўмовы крэдытаў могуць разьлічваць тыя маладыя людзі, якія трапляюць пад прэзідэнцкі Указ?***

- Гэтага я ня ведаю. І ўвогуле, ва Указе Нацыянальнаму банку толькі рэкамендуецца выдаваць ільготныя крэдыты моладзі. Па меры магчымасьці...

Вітаўт **РУДНІК.**

## ІЗНОЎ НЕЛЕГАЛЫ

**Памежнікі гарадзенскага памежатрада затрымалі чарговую групу нелегалаў. Парушальнікі памежнага рэжыму (усяго 58 чалавек) хаваліся ў лясным масіве каля вёскі Адамавічы, што ў Гарадзенскім раёне.**

Чакалі, калі іх пераправяць праз мяжу з Польшчай, а затым далей на Захад. Дачакаліся толькі таго, што трывожная група памежзаставы "Сафіёва" і рэзерв памежатрада затрымалі парушальнікаў і даставілі іх у абласны цэнтр. У складзе групы - грамадзяне Афганістана, Пакістана, Шры-Ланкі, Бангладэш ды Ірана.

Усе няпростыя праблемы, зьвязаныя з утрыманьнем нелегалаў і выдварэньнем іх з нашай тэрыторыі, ізноў абрынуліся на плечы памежнікаў.

**М.ВАСІЛЕВІЧ.**

## МАТАРЫЗАВАНЫЯ ПАРУШАЛЬНІКІ МЯЖЫ

**Пад покрывам ночы парушылі паветраную прастору беларуска-польскай мяжы чатыры мотадэльтапланы з Беластоцкага аэраклубу. Яны зрабілі пасадку на нашай тэрыторыі - каля вёскі Клепачы Бераставіцкага раёна. Няўдалых летуноў вярнулі дамоў.**

Беларускія памежнікі з выпадку здарэньня накіравалі адпаведны ліст да польскіх калегаў, у якім папрасілі не дапускаць у далейшым такіх здарэньняў.

**Д.М.**

## УЗЯЛІСЯ І ЗА «БРУЗГІ»

**Аб'яўлены конкурс на ўдзел у будаўніцтве пункту памежнага і мытнага афармленьня «Брузгі» каля Горадні.**

Праект плануецца ажыцьцявіць на працягу двух гадоў у некалькі этапаў. На першым будзе ўведзены комплекс для ўезду і дагляду аўтобусаў і аўтамабіляў, потым - адміністрацыйна-бытавы корпус. Завершыцца будаўніцтва КПП рэканструкцыяй аўтамабільнай дарогі, прылягаючай да пункта.

Па разьліках сьпецыялістаў, прапускная здольнасьць пункту памежнага і мытнага афармленьня «Брузгі» ўзрасьце ў два з паловай разы. Зараз ён разьлічаны на прыём тысячы транспартных адзінак у суткі ў двух накірунках.

Сьвятлана **ЮЗІК.**

## НОВАЕ ПРЫЗНАЧЭНЬНЕ ВІКТАРА ПРАКОПЧЫКА

**У Ашмянах новым старшынём райвыканкаму прызначаны Віктар Пракопчык.**

Нечарговая сесія раённага Савета адзінагалосна зацьвердзіла гэтае рашэньне. Віктар Пракопчык, перш чым узначаліць у Ашмянах «вертыкаль», кіраваў саўгасам «Індура» Гарадзенскага раёну, а яшчэ раней - працаваў загадчыкам вытворчага ўчастку ў Верцялішках пад кіраўніцтвам самога Аляксандра Дубко - цяперашняга старшыні аблвыканкаму. Спадар Дубко і прызначыў свайго «выхаванца» на гэтую даволі высокую пасаду ў іерархіі абласной наменклатуры.

Ранейшы кіраўнік Ашмянскага райвыканкаму Іван Раманоўскі падаў у адстаўку «па ўласным жаданьні». Але прычынай паслужылі вельмі нізкія паказчыкі ў сельгасвытворчасьці Ашмянскага раёну.

**Р.АНТАНОЎСКІ.**

## ВЫБАРЫ БЕЗ ВЫБАРУ?

**У пасёлку Гезгалы Дзятлаўскага раёну 3 лістапада ўпершыню пройдуць выбары ў мясцовы Савет. Трэба абраць 11 дэпутатаў.**

Дагэтуль Гезгалы мелі статус вайсковага гарадка і мясцовага Савету тут не было.

3 лістапада такое прыкрае становішча будзе выпраўлена. Зарэгістравана 11кандыдатаў у дэпутаты (роўна столькі, колькі вакансій).

**Д.М.**

## ЗДАЕЦЦА, НЕХТА ЗВАР'ЯЦЕЎ

Сям'я Казловічаў з вёскі Эйгорды Івейскага раёну, у якой нарадзіліся двайняты Маша і Даша, атрымала арыгінальны падарунак. Гэта «Завет гражданину Республики Беларусь XXI столетия», падрыхтаваны да друку часопісам Адміністрацыі Прэзідэнта рэспублікі «Беларуская думка». Гэта адна з першых кнігаў такога кшталту, уручаных на Беларусі. Усяго ж у Эйгорды паступіла 50 асобнікаў гэтага, наўпрост скажам, ня таннага выданьня.

Як мне здаецца, рэдакцыя «Беларускай думкі», замахнуўшыся сьледам за «бацькам» на XXI стагоддзе, трохі не дацяміла, што той жа Машы і Дашы некалькі пакункаў дзіцячага харчаваньня ці паўзункоў былі б болей дарэчы, чым складзены Заміталіным «Завет», пра які ўжо праз пяць гадоў ніхто не згадае.

Станіслаў **СУДНІК.**

Паласа падрыхтаваная паводле паведамленьняў нашых карэспандэнтаў і агенцтва БелаПАН.

# ЦІ ХОПІЦЬ ЗУБРАМ СЕНА, А ЛЮДЗЯМ ГРОШАЙ?

**Гарадзенскаму заапарку ў наступным годзе спаўняецца 70 год. Але, каб гэтая падзея адзначалася сьвяточна і ўрачыста, насельнікі зьвярынца і людзі, якія апякуюцца жывёламі, павінны перажыць зіму.**

Для дырэктара заапарка Ады Іванаўны Пятровай на пярэдадні зімы галоўны клопат - гэта нарыхтоўка сена. Каб пракарміць траваедных жывёл, яго неабходна 50 тон. Пакуль што ўдалася назапасіць толькі 20. Сена заапарк купляе ў калгасаў. Старшыні апошніх шмат абяцаюць, але прадаваць сена не сьпяшаюцца. Ада Іванаўна спадзяецца «выбіць» недастаючыя 30 тон, аднак лічыць, што калі б з кіраўнікамі калгасаў паразмаўляў старшыня аблвыканкаму Аляксандр Дубко, справа была б вырашаная адразу.

З набыцьцём іншых кармоў праблем менш, былі б грошы. Зарабляе іх заапарк на продажы білетаў, калі-некалі гандлюе выгадавамымі жывёламі. У асноўным жа трымаецца за кошт дзяржаўных датацый, якія атрымлівае праз упраўленне культуры аблвыканкаму. Але, па словах загадчыцы навукова-асьветнага сектару заапарку Надзеі Сяргееўны Герасімчук, каб не дапамога Абласнога камітэту прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, які ў гэтым годзе выдзяліў зьвярынцу каля 600 мільёнаў рублёў, грошай хапіла б толькі на мінімальны пракорм жывёл. На атрыманую ад камітэту дапамогу зроблены рамонт клетак, заасфальтаваная тэрыторыя, робіцца новы плот каля птушак. На Дзень абароны дзяцей для маленькіх наведвальнікаў было падрыхтавана цудоўнае сьвята.

Каб нехта даў яшчэ 600 мільёнаў, дык і яны не заляжаліся б. Напрыклад, малпам прыйшлося прызвычаіцца да кашы з малаком і яблыкаў. Быў бы спонсар, можна было б купляць нашым меншым братам бананы і апельсіны, тым больш, што незлічоная колькасьць прыватных фірмаў прывозіць у Горадню гэтую садавіну. Спадарыня Герасімчук кажа, што былі выпадкі, калі камерсанты прапаноўвалі заапарку свой тавар, які згубіў гандлёвы выгляд. Але пры адной умове - супрацоўнікі заапарку павінны апавясьціць аб шляхетным учынку грамадзкасьць.(Калі справа ў гэтым, «ПАГОНЯ» возьме на сябе вырашэньне праблемы.)

У іншых краінах існуе добры звычай: фірмы альбо дзяржаўныя ўстановы бяруць на сваё фінансаваньне якуюнебудзь жывёлу ў заапарку. Чаму, напрыклад, беларускай міліцыі не ўзяць пад апеку зуброў, вывява якіх ёсьць на міліцэйскіх шэўронах? Калі б АМАПаўцы замест разьбіцьця цэглы аб свае галовы накасілі сена для зуброў, выгода была б двухбаковая.

Даглядаць льва або слана значна цяжэй, чым сьвіньню, або карову. Як жа наша дзяржава ацэньвае працу калектыву заапарку? Адказ спадарыні Пятровай ашаламляе: згодна тарыфнай сетцы, аклад прыбіральшчыкаў складае 200 тысяч рублёў, рабочых па дагляду за жывёламі - 300-400 тысяч, загадчык секцыі атрымлівае 630 тысяч рублёў, а дырэктар - 760. Раней, у выпадку эканоміі датацый, кіраўніцтва магло выплочваць працаўнікам прэміі. Але ў мінулым годзе выйшла пастанова Мінфіна, па якой працоўны заапарку прыраўнялі да бюджэтнікаў. І зараз яны могуць спадзявацца толькі на 10% прэміі ад фонду заробку.

У верасьні супрацоўнікі заапарку атрымалі па 500 тысяч ад прэзідэнта. Але доўга цешыцца лукашэнкаўскім падарункам не давялося. Права на «прэзідэнцкія» грошы маюць толькі тыя арганізацыі, якія поўнасьцю фінансуюцца з бюджэту. А заапарк займаецца гаспадарчай дзейнасьцю. Атрымліваецца, грошы з фонду Аляксандра Рыгоравіча людзям, якія даглядаюць жывёл у адзіным зьвярынцы краіны, выдалі незаконна. Нікога не цікавіць, што працаўнікі заапарку ня маюць права ўзяць ні капейкі сабе на заробак з продажу білетаў і жывёл, а тым больш з дзяржадатацый.

На мінулым тыдні калектыў адаслаў лісты прэзідэнту і ў Мінфін. Людзі просяць растлумачыць, чаму па аплаце працы заапарк прыраўноўваюць да бюджэтных арганізацый, а калі справа даходзіць да ільготаў - да дзяржразлічэнскіх.

Ада Іванаўна спадзяецца, што грошы, якія выдалі «памылкова», назад не забяруць.




## НЕПЛАЦЯЖЫ БЕЛАРУСКІХ СПАЖЫЎЦОЎ НАФТАПРАДУКТАЎ УЗРАСТАЮЦЬ

**Большасьць прадпрыемстваў Беларусі па-ранейшаму застаюцца неплацёжаздольнымі. Па дадзеных канцэрна «Белнафтапрадукт», іх запазычанасьць за ўжываемыя нафтапрадукты на працягу апошніх месяцаў застаецца фактычна на адным узроўні: на 1 жніўня гэты паказчык складаў 302,4 мільярда рублёў, на канец жніўня — 340,1 мільярда, па стану на 4 кастрычніка —320,2 мільярда рублёў.** Найбольшы паказчык запазычанасьці у прадпрыемстваў Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчаваньня — ён перавышае 65 працэнтаў ад агульнага аб'ёму. Па сцьверджаньні сьпецыялістаў, унутраныя неплацяжы значна ўскладняюць працэс закупкі нафты за мяжой, што асабліва небясьпечна напярэдадні наступленьня зімовага ацяпляльнага сезона.

## ДАЎГІ БЕЛАРУСІ ЗА РАСЕЙСКІ ГАЗ НЕ СКАРАЧАЮЦЦА

**Як стала вядома, па стану на 24 кастрычніка агульны доўг Беларусі за расейскі газ склаў 6 трыльёнаў 187 мільярдаў 207 мільёнаў беларускіх рублёў (на 29 жніўня гэтая лічба складала 5 трыльёнаў 510 мільярдаў 981 мільён рублёў).** Бягучая аплата рахункаў за расейскі газ у кастрычніку склала толькі 50 працэнтаў.

**Яўген ГРУБІЧ.**

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА!

**Раніцай у мінулую суботу на спартыўнай пляцоўцы школы N 26 Горадні сабралося шмат па-сьвяточнаму апранутых дзяцей і дарослых. У руках людзі трымалі кветкі. У паветры луналі шматлікія каляровыя шарыкі. Школа адзначала сваё дзесяцігоддзе.**

Адкрыў сьвята на ўрачыстай лінейцы дырэктар школы Валянцін Іванавіч Шаўцоў. Пасьля лінейкі пачаліся спартыўныя спаборніцтвы. Вучні школы падзяліліся на каманды, каб прыняць удзел у эстафеце «Садружнасьць». У напружанай барацьбе эстафету выйгралі «Б» класы. Затым адбыліся спаборніцтвы па розных відах спорту. Перацягваньне канату, падняцьцё гіраў, зьбіваньне суперніка з бервяна спартовай грушай. Хлопцы найбольшую перавагу аддалі боксу. Яны з вялікім задавальненьнем лупцавалі адзін аднаго, каб вызначыць наймацнейшага. Гераічна змагаўся за перамогу Андрэй Шальпук з 8 «Г» класа. Ён перамог у двух баях і адзін бой скончыў нічыёй. Не было роўных Сашы Волчаку са спартовага 8 «А». Ён хутка адолеў трох супернікаў.

Але ўсе прысутныя на сьвяце з нецярпеньнем чакалі, калі зьявіцца самалёт Гарадзенскага аэраклубу. Нарэшце з-за аблокаў паказалася крылатая машына. Пасьля таго, як самалёт апісаў некалькі кругоў над школьным стадыёнам, з адкрытых дзьвярэй машыны пачалі выскокваць парашутысты. Немагчыма выказаць словамі захапленьне, якое апанавала дзецьмі! Марнымі былі намаганьні настаўнікаў іх спыніць. Вучні з радаснымі крыкамі несьліся ад аднаго месца прызямленьня парашутыста да другога.

Са стадыёну сьвята перанеслася да ўваходу ў школу і на пляцоўку перад ёй. На прыступках пачаўся канцэрт, у якім прынялі ўдзел дзіцячы калектыў «Дударыкі», навучэнцы музвучылішча, салісты студыі «Забава» пры Гарадзенскім вучылішчы мастацтваў.

У гэты час сябры аэраклубу паднялі над дамамі вялізны паветраны шар. На гандоле пад шарам быў зьмешчаны лозунг: «Жыве беларуская школа N 26!».З 14-й гадзіны ў памяшканьні школы адбываліся сустрэчы з выпускнікамі. Бацькі і госьці школы маглі наведаць выставы малюнкаў і мастацкіх вырабаў, зробленых вучнямі да юбілею. Перад наведвальнікамі адкрыў дзьверы школьны музей, у якім, між іншым, захоўваецца залаты алімпійскі медаль наймацнейшага чалавека планеты Аляксандра Курловіча.

А ў 18 гадзін у актавай зале адбылося сьвяточнае паседжаньне. Школьным пенсіянерам і настаўнікам, якія працавалі ў школе з першага дня яе заснаваньня, былі ўручаныя падарункі. Дырэкцыя школы выказала падзяку спонсарам, якія зрабілі магчымым правядзеньне сьвята. Дапамаглі школе фірма «Кока-Кола», фабрыка гароднiны, ДРБУ-47, «Саюзпраммантаж», МП «Юрыс», Кастрычніцкі раённы аддзел адукацыі, сям'я Зыльковых.

З прывітальнымі словамі да юбіляраў зьвярнуліся сябра Прэзідыуму Вярхоўнага Савету Беларусі Сямён Домаш, старшыня Гарадзенскага Таварыства Беларускай школы Аляксандр Мілінкевіч і яго намесьнік, спадарыня Тамара Талерчык. Спадар Мілінкевіч адначасова зьяўляецца старшынём гарадзенскага таварыства «Ратуша», ад імя якога ён перадаў школе тысячу долараў для набыцьця кампутара. Гарадзенскі завод «Дугапалімер» падараваў дырэктару школы тэлефон «Панасонік» з вызначальнікам нумару. Школу таксама віншавалі: прафесар універсітэту Аляксей Пяткевіч, заслужаны настаўнік Беларусі Апанас Цыхун, старшыня фонду імя Льва Сапегі Тацьцяна Маліноўская, старшыня Дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў Горадні Мікалай Мельнікаў ды іншыя госьці.

Перад удзельнікамі паседжаньня выступалі мастацкія калектывы школы. А скончылася ўрачыстасьць песьняй «Шумлівыя гаі» у выкананьні школьнага хору. Словы і музыку да гэтай песьні напісаў дырэктар школы. Спадар Шаўцоў сам выступіў у якасьці саліста.

# ВУЧЫЛІСЯ З АХВОТАЙ... ДЭМАКРАТЫІ

**У кастрычніку пры Гарадзенскай філіі Фонду імя Л.Сапегі адбыліся 2 семінары, якія сталі чарговым этапам супрацоўніцтва са Шчэцінскім адукацыйным цэнтрам Фонду разьвіцьця лакальнай дэмакратыі (Польшча) у межах праграмы «Школа дэмакратыі і самакіраваньня». Гэтая праграма ў сваю чаргу зьяўляецца элементам шырокай Еўрапейскай праграмы TASIS і PHARE, галоўная мэта якой - дэмакратызацыя краінаў Цэнтральнай і Усходняй Эўропы.**




Першы семінар «Малады лідэр у дэмакратычным посттаталітарным грамадзтве» быў скіраваны да моладзі старэйшых класаў школы. Маладыя грамадзяне даведаліся шмат новага і цікавага пра маладзёжныя арганізацыі на Беларусі, пра стан дэмакратыі ў нашай краіне, паспрачаліся, якім павінен быць ідэальны лідар, на сваім вопыце пераканаліся, што ў дэмакратыі неабходна ісьці на супрацоўніцтва, а не на спаборніцтва. Дэмакратыі нельга навучыць моладзь толькі нуднымі лекцыямі. Дэмакратыя закладзеная ў кожным з нас. Трэба толькі даць імпульс і раскрыць яе. Гэта і паспрабавалі зрабіць маладыя выкладчыкі, якія папярэдне прайшлі навучаньне ў Адукацыйным цэнтры FRDL у Шчэціне. Яны склалі першапачатковы варыянт праграмаў будучых семінараў, распрацавалі стратэгію дзейнасьці, дапаможнікі і планы правядзеньня заняткаў.

Другі семінар «Тэхналогіі дзейнасьці маладзёжных грамадзкіх арганізацыяў» сабраў студэнцтва, якое не патанула ва ўсеагульным песімізме, а надалей адчувае ў сябе сілы і жаданьне дзейнічаць. Інтэрактыўныя метады і цудоўная атмасфера хутка зьінтэгравалі групу абсалютна незнаёмых людзей, якія 2 дні семінару працавалі і адпачывалі разам. Праграма семінару найбольш увагі сканцэнтравала на стварэньні і дзейнасьці грамадзкага аб'яднаньня, а таксама на фармаваньні лідэрскіх здольнасьцяў і уменьні працаваць з групай. На другі дзень усе ўдзельнікі семінару мелі магчымасьць паспрабаваць даць вывед на радыё пра сваю арганізацыю пад час практычных заняткаў з радыёжурналістам... Але і гэты семінар неўзабаве сабраў усіх на падвядзеньне вынікаў. Найбольш запомнілася ўражаньне адной удзельніцы, якая сказала, што пасьля гэтага семінару ёй нічога іншага не застаецца, як знайсьці для сябе маладзёжную арганізацыю і стаць у ёй лідарам.

Арганізатары семінару і госьці са Шчэцінскага адукацыйнага цэнтру былі шчасьлівыя тым, што семінары, нягледзячы на ўсе магчымыя і немагчымыя перашкоды зьвязаныя са зборам дзяцей, немагчымасьцю зьняць памяшканьне і іншыя, усё ж адбыліся і прынесьлі карысьць гэтым шасьцідзесяці маладым грамадзянам Беларусі.

**Людвіка ВАЛЫНЦОВА.**

# НЕЎТАЙМАВАНЫ НЕМЕЦ

**У сёлетнім 33-м нумары «ПАГОНЯ» пісала пра гісторыю, якая здарылася ў Беларусі з грамадзянінам Нямеччыны Юргенам Кляйнам. Нямецкага бізнэсмэна, які неаднаразова прывозіў у Горадню гуманітарную дапамогу, абвінавацілі ў кантрабандзе зброі. Гарадзенскі раённы суд прысудзіў Юргена да 3 гадоў пазбаўленьня волі, з адтэрміноўкай на 1 год. Пасьля суду спадар Кляйн сказаў, што дзеяньні нашых уладаў ня зьменяць яго адносін да беларускага народу. Словы немца не разышліся са справамі.**

**На гэтым тыдні ён зноў прыехаў у Горадню з партыяй медыкаментаў, дзіцячага адзеньня і цацак.**



Пазаўчора медыкаменты былі перададзеныя асістэнту кафедры факультэцкай тэрапіі Гарадзенскага медінстытуту Уладзіміру Пырачкіну.

Спадар Пырачкін распавёў карэспандэнту «ПАГОНІ» аб далейшым лёсе лекаў: «Спадар Кляйн прывёз медыкаменты, якія будуць перададзеныя ў сасудзістыя, тэрапеўтычныя і кардзалагічныя аддзяленьні 2-га і 4-га шпіталяў Горадні дзеля лячэньня артэрыяльнай гіпертэнзіі, сардэчнай недастатковасьці, каранарнай недастатковасьці і шэрагу іншых захворваньняў. Частка медыкаментаў будзе выкарыстаная ў навуковай працы нашай кафедры».

Адзеньне і цацкі Юрген Клян плануе аддаць Гарадзенскаму Дому дзіцяці.

Пасьля перадачы лекаў нельга было не задаць Юргену некалькі пытаньняў:

***- Спадар Кляйн, як аднесьліся на радзіме да вашай амаль паўгадовай адсідкі ў беларускай турме?***

- У Нямеччыне я зьяўляюся паважаным грамадзянінам. Маім родным і знаёмым нават думка не прыйшла, што я злачынец.

***- І пасьля таго як з вамі так абыйшліся ў нас, вы зноў прывезьлі нам дапамогу?***

- Калі б тыя грошы, што я аддаў на лекі, уклаў у сваю вытворчасьць, зарабіў бы 200-300 долараў. Для мяне гэта не істотна. Ведаючы пра становішча на Беларусі, лепш накіраваць грошы на дапамогу людзям.

***- Як успрынялі вашыя блізкія навіну, што зноў едзеце ў Беларусь?***

- Усе родныя і знаёмыя адгаворвалі ад паездкі. Не раілі ехаць і ў дзяржаўнай канцыляры Дзюсельдорфу. Яны баяліся, што КДБ зноў можа мяне затрымаць.

***- І як вас сустрэлі на нашай мяжы?***

- Ніякага асаблівага агляду не было. Памежнікі і мытнікі адносіліся ветліва, жартавалі. Думаю, і яны разумеюць, што я не кантрабандыст.

**Дз.КІСЕЛЬ.**

**На здымку: Юрген КЛЯЙН (злева) перадае гуманітарную дапамогу медінстытуту.**

 СПОРТ 

## ЦІ ХОПІЦЬ «НЁМАНУ» 450 МІЛЬЁНАЎ?



**Гарадзенскія клубы першай лігі працягваюць казытаць нэрвы сваім заўзятарам. За два туры да канца чэмпіянату і «Нёман», і «Абутнік» балансуюць на вастрыні ляза, падзеньне з якога ёсьць шлях у другую лігу. Адтуль, у сваю чаргу, спрабуе прабіцца ў вышэйшы сьвет слонімскі «Камунальнік».**

У апошнім туры гарадзенцы сталі ахвярай Хлебасолава і Ко (так сьмела можна назваць бабруйскую «Белшыну»). Сам Андрэй вызначыўся ў гульні двойчы, давёўшы свой бамбардзірскі паказчык да 33 галоў ў 28 (!) гульнях. Паміж галамі Хлебасолава «пакрыўдзіў» Нёман і Раман Лявіцкі. Гол прэстыжу ў канцы сустрэчы пры ліку 0:3 у гарадзенцаў забіў Алег Радушка.



ФОТА: Я.ВАНЮКЕВІЧА.

Сяргей Саладоўнікаў.

У Лідзе «абутнікі» сустракаліся з асноўным канкурэнтам у барацьбе за выратавальнае 14-е месца - магілёўскім «Тарпеда-Кадзіна» - і перамаглі з лікам 2:0, адсунуўшы ў чарговы раз на перадапошняе месца «Нёман». Аднак ужо заўтра гарадзенцы змогуць гэтую непрыемную прыступку пакінуць, калі перамогуць на сваім стадыёне «Дынама-93».

Дадатковым стымулам для каманды павінна стаць выдзяленьне з гарадзкога бюджэту 450 мільёнаў рублёў для «пасьпяховага завяршэньня сезону».

Неверагодна складаную (але куды больш прыемную) сітуацыю вырашаць у найбліжэйшыя дні будуць і гульцы слонімскага «Камунальніка». У турніры каманд другой лігі перад апошнім турам, які пройдзе ў нядзелю, клуб займае трэцяе месца. Для выхаду ў I лігу слонімскім футбалістам трэба перамагчы старадарожскі «Будаўнік», які ўсе свае 23 гульні ў чэмпіянаце дагэтуль прайграваў. А таксама маліцца Богу, каб у Гомелі мясцовы клуб перамог ці згуляў унічыю са сьветлагорскім «Хімікам». У адваротным выпадку пуцёўку «наверх» атрымаюць сьветлагорцы.

Для гарадзенскіх «лятаючых карданаў» чэмпіянат другой лігі ўжо скончыўся. У апошняй сустрэчы каманда з лікам 9:1 (!) перамагла старадарожцаў і займае месца ў сярэдзіне турнірнай табліцы. Тры галы ў сустрэчы (усяго ў гэтым чэмпіянаце - 12) забіў гуляючы трэнер «Кардан Флаерс» Сяргей Саладоўнікаў.

## ЯК «УДОВЛЕТВОРИТЬ» «ПАЛІМІР»



**На два франты аднachасова змагаюцца ў сёлетнім сезоне хакеісты «Нёмана». Пакуль атрымліваецца як у прымаўцы пра паляваньне на двух зайцоў.**

У першынстве Усходне-Еўрапейскай лігі гарадзенцы займаюць пакуль 4-е месца. У мінулыя выхадныя ў Рызе «Нёман» спачатку перамог мясцовы «Юніёрс» (8:3), а затым згуляў з ім унічыю - 3:3. З і 4 лістапада каманду Анатоля Варывончыка будзе прымаць менскае «Юнацтва». Куды больш пасьпяхова гуляюць у лізе асноўныя канкурэнты «Нёмана» - кіеўскі «Сокал», наваполацкі «Палімір» і менскае «Цівалі». Апошнія дзьве каманды апярэджваюць гарадзенцаў і ў першынстве краіны. Учора ўвечары «Нёман» на сваёй пляцоўцы сустракаўся з «глубоко удовлетворённым» ідэяй прэзідэнцкага рэферэндуму «Палімірам». Ці здолеў «Нёман» сваёй гульнёй «удовлетворить» навапалачан, мы паведамім у наступным нумары.

## СПРЫНТ



Гандбалісты Горадні пасьпяхова згулялі ў першым туры чэмпіянату краіны, атрымаўшы ў пяці гульнях 3 перамогі. Каманда мае рэальны шанц трапіць у шасьцёрку наймацнейшых каманд, якая пасьля другога тура (24-29 лістапада) будзе змагацца далей за медалі. У лік лепшых бамбардзіраў чэмпіянату ўваходзіць гарадзенец Аляксандр Макараў, які закінуў 43 мячы.

* * *



Валейбалісты гарадзенскага «Камунальніка» на сваёй пляцоўцы згулялі дзьве таварыскія сустрэчы са зборнай камандай Беларусі, якая рыхтуецца да адборачнай гульні чэмпіянату Эўропы з французамі. У першай сустрэчы перамаглі «камунальнікі» - 3:2. У другой «зборнікі» узялі рэванш - 3:1.

* * *



Баскетбалісты «Гродна-93» пасьля шасьці гульняў аднаасобна ўзначальваюць турнірную табліцу чэмпіянату. У мінулыя выхадныя з лікам 107-91 і 103-64 гарадзенская «дзевяностатрэція» перамаглі магілёўскі «Тэмп».

* * *



На розыгрышы чарговага адкрытага Кубка Горадні па спартыўнаму арыентаванью ў кампаніі моцных каманд з Наваполацка, Магілёва, Менска і Менскай вобласьці пасьпяхова выступілі гаспадары спаборніцтваў.

У першы дзень спаборніцтваў на скарочанай дыстанцыі перамогу сярод мужчын атрымаў Аляксей Лябецкі з каманды «Кронан» (Абласны цэнтр дзіцячага і юнацкага турызму). Сярод юнакоў да 16 гадоў наймацнейшым быў Павел Красько з «Верасу». У турніры жанчын перамогу сьвяткавала гарадзенка Натальля Савіцкая («Кронан»). Яна ж, а таксама Павел Красько,былі наймацнейшымі і ў другі дзень спаборніцтваў, якія пад праліўным даждом праходзілі ў раёне вёскі Путрышкі. Аляксей Лябецкі ў гэты дзень быў трэцім, а Віктар Калач (юнакі да 14 год) з «Кронана» - другім.

У мужчынскай эстафеце наймацнейшым быў гарадзенскі «Кронан» у складзе Эдварда Ародзя і Аляксея Лябецкага. У спаборніцтве юнакоў да 14 год трэцяе месца заняў «Верас» (Валеры Будрык і Міхаіл Мінін). Сярод 16-гадовых другімі былі Сяргей Баліцкі і Міхаіл Кірбавец з «Верасу», а трэцімі - Ігар Хурс і Андрэй Кунцэвіч з Абласнога цэнтру дзіцячага і юнацкага турызму. Па выніках стартаў трое гарадзенцаў - Эдвард Ародзь, Аляксей Лябецкі (абодва «Кронан») і Аляксандр Русоўскі («Верас») выканалі нарматыў майстроў спорта.

**Вітаўт РУДНІК.**



## КІНААФІША ГОРАДНІ

**«ГРОДНА»:** 1,2,3 лістапада - «Лічаныя секунды» - 9.50, 11.40, 13.30, 15.20, 17.10, 19.10 і 21.00. ВІДЭА: 1 лістапада - «Не такія, як мы « (жахі) - 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00 і 20.00. 4-10 лістапада -»Барханаў і яго целаахоўнікі (крымінальная камедыя, 1,5 серыі) -9.50, 12.00, 14.10, 16.20, 18.30, 20.40.

**«КОСМАС»:** 1,2 лістапада - «Чорны каршак» (прыгодніцкі супербаявік, ЗША) - 11.50, 13.40, 15.30, 17.20, 19.10, 21.00. ВІДЭА: «Кабельшчык» - 14.30, 18.30. «Разборка ў Бронксе» - 12.30, 16.30, 20.30. 3 лістапада - «Выдатны паліцэйскі» - 10.00. «Чорны каршак» - 11.50, 13.40, 15.30, 17.20, 19.10, 21.00. ВІДЭА: «Кабельшчык» - 10.30, 14.30, 18.30. «Разборка ў Бронксе» - 12.30, 16.30, 20.30.

**«ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА»:** 1,2,3 і 4 лістапада - «Сьценка на сьценку» (супербаявік-96) - 12.10, 14.20, 16.30, 18.40, 20.50. «Ад змроку да сьвітаньня» - 13.20, 17.00, 21.00. «У пошуках прыгод» - 15.10, 19.00. ФІЛЬМ-ДЗЕЦЯМ: 1,2 лістапада - «Каспер» (мультфільм) - 11.30. 3 і 4 лістапада - «Казаам» (фантастычная камедыя) - 11.30.

**імя ПУШКІНА:** 1 лістапада - «Ніка-9» - 10.00, 13.50. «Ад змроку да сьвітаньня» - 12.00. ФІЛЬМ-ДЗЕЦЯМ: «Бетховен» (камедыя) - 15.30. Дыскатэка - 18.00, 21.00. 2 лістапада - «Ніка-9» - 10.00, 16.00. «Лясны воін» (прыгодніцкі баявік) - 12.00, 18.00. «Ад змроку да сьвітаньня» - 14.00, 20.00. 3 лістапада - «Ніка-9» - 16.00, 18.00. «Лясны воін» - 12.00. «Ад змроку да сьвітаньня» - 14.00. Дыскатэка -20.00.

**«КАСТРЫЧНІК»:** 1 лістапада - «Бяжы» (камедыя) - 15.00, 16.50, 18.40, 20.30. «Па мянушцы Гына» (дэтэктыў) - 10.00, 11.50, 13.40, 15.30. «Ракавы лік» - 15.20, 17.10. «Усемагутнасьць» - 19.10, 21.00. ВІДЭА: «Дзень незалежнасьці» - 17.00, 19.20. Кожную сераду і нядзелю -Школьная дыскатэка - 18.30. НАЧНЫ КЛУБ: - штодзённа музычна-забаўляльная праграма - 22.00 (панядзелак і аўторак -выходныя).

КУЛЬТУРА

## ДЗЯДЫ Ў МУЗЭІ РЭЛІГІІ

**Традыцыйная вечарына памяці, прысьвечаная Дзядам, адбылася ўчора ў гарадзенскім музеі гісторыі рэлігіі.**

Перад удзельнікамі імпрэзы з жалобнай праграмай выступілі навучэнцы музычнага вучылішча. Госьці музея ў гэты дзень сталі таксама першымі наведвальнікамі новаадчыненай выставы «Гарадзенскія храмы на старых паштоўках», якая будзе працаваць да Калядаў.

**Вітаўт РУДНІК.**

## ВАЛЕРЫЮ СЬМІРНОВУ - 50!

Станавога Кручкова ў «Пінскай шляхце», Крыніцкага ў «Паўлінцы», Францыска Скарыну ў аднайменнай п'есе і каля 50 іншых разнапланавых роляў згуляў на сцэне вядучы артыст Гарадзенскага драмтэатра Валеры Сьмірноў. Днямі шматгадовая плённая праца Заслужанага артыста Беларусі, яго ўклад у разьвіцьцё тэатральнага мастацтва былі адзначаныя Ганаровай граматай гарвыканкаму. Гэтая ўзнагарода стала яшчэ адным падарункам вядомаму артысту, які ў сярэдзіне кастрычніка адзначыў сваё 50-годдзе.

**В.ДРЭМА.**

## «КАХАНЬНЕ ПАД АКУПАЦЫЦЫЯЙ»

**Гэтая кніга — перамога зьняволенага паэта над заганнай грамадзка-палітычнай сістэмай, подых сьвежасьці і нястомнай прагі жыцьця. Пэўна, ейны аўтар — вядомы Славамір Адамовіч — і не спадзяваўся, што ягоны зборнік «Каханьне пад акупацыяй» пабачыць сьвет напярэдадні паказальнага судовага працэсу над ім як аўтарам верша «Убей президента».**

Складзеная ў Менску і надрукаваная ў Варшаве, кніжачка зьмяшчае дваццаць тры вершы, якія некалі друкаваліся ў «Нашай Ніве» і «Культуры», чыталіся паэтам на літаратурных вечарынах. Вельмі добра, што калегі С.Адамовіча па прыгожым пісьменстве парупіліся і тэрмінова выдалі ягоныя творы. Яшчэ да арышту Славамір падрыхтаваў да друку томік паэзіі «Плавільчыкі расы» з ілюстрацыямі і вокладкай у выкананьні вядомага мастака Алеся Пушкіна. На жаль, гэты праект ня зьдзейсьніўся. Такім чынам, аматары айчыннай літаратуры атрымалі паэтычны падарунак з рамантычнай назвай «Каханьне пад акупацыяй».

Нястрымнае трапяткое пачуцьцё, якое хаваецца ў мастацтве пад мянушкай эратызм, заўсёды жывіла паэзію С.Адамовіча і паўставала ў ягоных папярэдніх зборніках у розных канфігурацыях. У апошняй кнізе яно напаўняецца падкрэслена антыталітарным зьместам і набывае альтэрнатыўнае гучаньне.

Зразумела, каханьне надзеленае значна большай сілай, чым варожая сістэма, персаніфікаваная ў вобразе нядошлага выведнікастукача. Таму і вельмі пераканаўча выглядае фінал гэтага верша.

**Сакрат ГАРАДЗЕНСКІ.**

## ГАРАДЗЕНСКІ ЎІК-ЭНД

**АБЛДРАМТЭАТР** - 3 лістапада: «Дзень нараджэньня ката Леапольда» (казка) - 12.00; прэм'ера «Сямейны ўік-энд» - 19.00

**ТЭАТР ЛЯЛЕК**: - 3 лістапада: «Кот Васька і яго сябры» - 12.00

**НОВЫ ЗАМАК** - Працягвае сваю работу выстава жывапісу мясцовых мастакоў «Нацюрморт».

**ГАЛЕРЭЯ «У МАЙСТРА»** - Запрашаем на персанальную выставу Пятра Янушкевіча «ЛІКБЕЗ».

**ВЫСТАВАЧНАЯ ЗАЛА САЮЗА МАСТАКОЎ БЕЛАРУСІ** - Працягвае працу выстава сучасных гарадзенскіх мастакоў «Восень'96».

**К/ТР «КАСТРЫЧНІК»** - 6 лістапада: адкрыцьцё выставы мастацкай фатаграфіі «Гарадзкія кветкі». Пачатак у 16 гадзін.

**В.НІКАНОВІЧ.**

## ЛЕПШЫ - МЕЛЬНІКАЎ

**26-27 кастрычніка ў Бельску-Падляскім праходзіў фестываль песьні «Бардаўская восень. Бельск-96». Арганізатарам фестывалю быў Зьвяз Беларускай моладзі ў Польшчы.**

Удзельнічала каля 20 выканаўцаў з Менску, Гомеля, Варшавы, Беласточчыны. Па-за конкурсам выступілі Сяржук Сокалаў-Воюш з Прагі і Алесь Камоцкі з Менску. Ацэньвала сьпевакоў журы пад старшынствам Сакрата Яновіча.

Гран-пры фестывалю атрымаў Андрэй Мельнікаў з Гомеля. Ён таксама стаў уладальнікам узнагароды Беластоцкага радыё.

**Д.К.**

КРЫМІНАЛ

## КАНТРАБАНДНЫЯ ПАРАСЯТЫ

У выніку памежнай аперацыі «Рубеж-96» з 16 верасьня на ўчастку Смаргонскага памежатрада затрымалі ажно чатыры партыі кантрабанднага грузу: 1350 кг памідораў на суму 1265 долараў, 1500 кг салёных грыбоў на суму каля 4000 долараў, 14 парасят на суму каля 14 млн.руб., 3250 долараў ЗША і 4100 дойчмарак.

Што ж, чым багаты, тым і рады. Нічога ня будзе дзіўнага, калі хутка і расол павязуць, бо нашыя прамысловыя тавары ў Летуве не патрэбныя.

## У АРЫГІНАЛЬНАСЬЦІ НЕ АДМОВІШ

Людзі зараз гандлююць усім, у тым ліку і макавай саломкай. Але з гэтым таварам на кірмашы не станеш, таму яго трэба да часу падрыхтаваць. І калі адна з жыхарак г.п.Радунь Воранаўскага раёну трымала саломку ў ёмістасьці пад выглядам мякіны, дык другая зрабіла больш арыгінальна: напхала 40 кілаграмамі саломкі сяньнік, на якім спала.

Цікава, аднак, іншае: як можна было той сяньнік знайсьці.

## СПРЫТНАСЬЦЬ РУК

**Сьледам за менскім «Гарызонтам», які махляры награлі на буйную суму, ахвярай «даверлівасьці» стаў Берасьцейскі завод газавых пліт.**

Гэтае прадпрыемства адгрузіла два вагоны сваёй прадукцыі на суму 4 мільярды рублёў неіснай у прыродзе фірме.

Адно павінна суцяшаць берасьцейцаў: фірма была нібыта менская. Разбагацеюць нашыя суверэнныя жулікі.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## ГАРЫ ЯНО ГАРАМ...

**Амерыканскія інжынеры разам з беларускімі калегамі плануюць пабудаваць у Беларусі эксперыментальную электрастанцыю, якая працуе на біямасе, і будзе скарыстоўваць перапрацаваную драўніну і сьмецьце з лясоў, што зьяўляюцца радыяктыўна забруджанымі пасьля чарнобыльскай катастрофы.**

Радыяктыўныя ізатопы, у асноўным цэзій і стронцый, будуць накопліваца ў попеле і такім чынам вымацца з наваколльнага асяроддзя.

Будаўніцтва станцыі, якое абыдзецца ў 1 млн. 600 тысяч долараў, пачнецца ў красавіку будучага году і запатрабуе каля году. Калі праект будзе ўдалым, ён адчыніць шлях да стварэньня буйных прамысловых ўстановак такога тыпу.

## БАРАВІК-ВЕЛІКАН

Скідальчанка Таісія Арлічэня (**на здымку**) у лясным урочышчы Фяньнова, што за сем кіламетраў ад Скідаля, знайшла баравік-велікан. Вага яго больш кілаграму, вышыня ножкі больш 20 сантыметраў, а дыяметр шляпкі - 29 сантыметраў.

«Спачатку я падумала, - кажа спадарыня Таісія, - што з-пад імху ля дрэва выглядае край якойсьці талеркі, але калі разгарнула мох, дык сваім вачам не паверыла...»

**Ільля БАРЫСАЎ.**



ПАГОНЯ
Грамадзка-палітычная газета
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 597
Падпісны індэкс 63124
Адрас рэдакцыі:
230023, г.Горадня, вул. Дамініканская,1
(0152) 72-35-61, 72-29-96
E-mail: andrei@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-72-37-14 (23.00-10.00)
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасьць за падбор і дакладнасьць фактаў, іх меркаваньні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі.
Адказнасьць за зьмест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня: 230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Заказ 3628 Наклад 12331
Нумар падпісаны да друку ў 16.00, 31.10.96
Рэдактар Мікола Маркевіч